**№ 88 (1901)**

Серада, 19 мая 2004 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень
Выдавец:
УП «Народная воля».

Кошт свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

E-mail: nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

### *Надвор'е*

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +15...+17, без ападкаў, уначы — +8...+10, дождж; у Брэсце ўдзень — +15...+17, без ападкаў, уначы — +10...+12, дождж; у Гродне ўдзень — +13...+15, без ападкаў, уначы — +8...+10, дождж; у Віцебску ўдзень — +15...+17, сонечна, уначы — +7...+9, дождж; у Гомелі ўдзень — +16...+18, сонечна, уначы — +8...+10, без ападкаў; у Магілёве ўдзень — +17...+19, сонечна, уначы — +7..+9, дождж.

*www.meteo.by*



**ПУЛЬС**

## Акадэмікаў «цягнуць» у дзяржапарат

*Прэзідэнтам Беларусі падпісаны ўказ аб увядзенні з 1 студзеня 2004 года штомесячных даплат за акадэмічныя званні акадэміка і члена-карэспандэнта вучоным, што працуюць у сферы дзяржаўнага кіравання.*

Раней такія даплаты былі прадугледжаны толькі акадэмікам і членам-карэспандэнтам, асноўным месцам працы якіх з'яўляліся ўстановы і арганізацыі навукі, адукацыі, культуры, аховы здароўя, а таксама пенсіянерам, якія маюць названыя званні.

**Генадзь ШАРЫПКІН.**

## Калі цэны падымаюцца — усё апускаецца

*На 0,8 працэнта выраслі спажывецкія цэны ў Беларусі за першы тыдзень мая, паведамілі БелаПАН у Міністэрстве статыстыкі і аналізу.*

Для параўнання: за першы тыдзень красавіка цэны павялічыліся на 0,5 працэнта, за першы тыдзень мая 2003 года — на 0,6.

З пачатку года спажывецкія цэны выраслі на 7,2 працэнта (за аналагічны перыяд мінулага года — на 11 працэнтаў).

Афіцыйны прагноз інфляцыі на 2004 год складае 14-18 працэнтаў. Такім чынам, прагноз "выкананы" на 51 працэнт па ніжняй планцы і на 40 працэнтаў — па верхняй.

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

## Дзеці з'ядуць гэтае павелічэнне і не заўважаць

*Пастановай Міністэрства працы і сацыяльнай абароны Беларусі павялічаны памеры дзяржаўных дапамог сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей.*

Паводле звестак Мінпрацы і сацабароны, у сярэднім рост дапамог складзе крыху больш за 5 працэнтаў. Так, аднаразовая дапамога пры нараджэнні дзіцяці складае 238 тысяч 520 рублёў (раней - 226 тысяч 380 рублёў), аднаразовая дапамога жанчыне, якая стала на ўлік да 12 тыдняў цяжарнасці, складзе 119 тысяч 260 рублёў (раней - 113 тысяч 190 рублёў), штомесячная дапамога па догляду за дзіцем ва ўзросце да 3 гадоў у поўнай сям'і працуючым бацькам або апекунам - 77 тысяч 520 рублёў (раней - 73 тысячы 570 рублёў), штомесячная дапамога па догляду за дзіцем ва ўзросце да 3 гадоў непрацуючым бацькам або апекунам складзе 41 тысячу 740 рублёў (раней - 39 тысяч 620 рублёў).

Новыя памеры дапамог будуць дзейнічаць да 31 ліпеня гэтага года. Пераразлік памераў дапамог для гэтай катэгорыі насельніцтва робіцца чатыры разы ў год у сувязі са змяненнем бюджэту пражытачнага мінімуму. У апошні раз дапамогі павялічваліся з 1 лютага гэтага года.

**Вольга АСІПЕНКА.**

## Гаспадару пакетаў ужо не да пакетаў

*Партыю безгаспадарчых поліэтыленавых пакетаў знайшлі памежнікі Гомельскага пагранатрада сумесна з супрацоўнікамі мытні пры аглядзе пасажырскага цягніка маршрутам "Адэса — Санкт-Пецярбург" пры ўездзе яго на тэрыторыю Беларусі.*

Кантрабандны груз складаўся з некалькіх дзесяткаў тысяч пакетаў рознага прызначэння і розных памераў - для харчовых прадуктаў, для смецця, маленькіх, вялікіх. Кошт кантрабанды склаў каля 2 мільёнаў рублёў.

Гаспадар кантрабанднага грузу не знойдзены.

## За грашыма закружылася галава

*Двух падлеткаў — 16 і 17 гадоў — затрымалі памежнікі Брэсцкай пагранічнай групы паблізу ад пункта пропуску "Буг" на беларуска-польскай мяжы.*

Як паведамілі БелаПАН у прэс-цэнтры Дзяржаўнага камітэта пагранічных войскаў рэспублікі, падчас разбору высветлілася, што двое жыхароў Камянецкага раёна вышукваюцца органамі ўнутраных спраў па падазрэнні ва ўчыненні крадзяжу ў сваёй суседкі-пенсіянеркі па вёсцы — 300 тысяч рублёў і 233 долары ЗША. Падлеткі растлумачылі, што спрабавалі выехаць ва Украіну, аднак пераблыталі напрамкі.

Падазроныя перададзены супрацоўнікам Камянецкага РАУС.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

## Нацыянальны мастацкі музей ідзе ў нагу з прагрэсам

Добрая навіна для аматараў мастацтва: з 5 мая ў музея з'явіўся свой web-сайт, на якім можна пагледзець экспазіцыі, калекцыі і тыя выставы, якія праходзяць у музеі.

Таксама музей выдаў CD-ROM, на якім можна паглядзець пакуль што толькі пастаянную экспазіцыю. Дыскі з'явяцца ў продажы літаральна праз месяц і каштаваць будуць напэўна 5 долараў.

Па словах дырэктара Нацыянальнага мастацкага музея Уладзіміра Пракапцова, ужо восенню ў музеі з'явіцца новы від экскурсіі — электронны экскурсавод. Наведвальніку будзе выдавацца аўдыёкамплект (ці за грошы, ці ў залог дакументаў — пакуль канчаткова не вырашана), і ён, начапіўшы навушнікі, будзе хадзіць па музеі і слухаць экскурсію ці на рускай, ці на беларускай, ці на англійскай мовах. Дарэчы, зрабіць даступнымі самастойныя экскурсіі дапамагае таксама і пуцевадзіцель, які выдаў музей.

*"У перспектыве,* — гаворыць Ул.Пракапцоў, — *мы плануем сумесна з Міністэрствам культуры, упраўленнем культуры гарвыканкама ў цёплы перыяд года праводзіць у выхадныя дні акцыі, звязаныя з дзіцячай творчасцю, з маладымі мастакамі, магчыма, з нейкімі музычнымі ўстаўкамі. Для гэтага кавалак вуліцы Леніна перад музеем будзе перакрывацца".*

**Наталля ГУСЕВА.**

**ИЗ ПЕРВЫХ УСТ**

# Чего хочет «Газпром»...

**В Москве состоялась встреча председателя Правления ОАО «Газпром» А.Б.Миллера и заместителя председателя Правления ОАО «Газпром» А.Н.Рязанова с белорусскими журналистами. Ниже публикуем в сокращенном варианте стенограмму разговора.**

**А.Б. Миллер:** Добрый день. Я хотел бы обозначить ряд принципиальных моментов, которые касаются сотрудничества России и Беларуси в газовой сфере. Сначала о текущей ситуации.

С 1 января 2004 года "Газпром" не поставляет газ в Беларусь. Это связано с тем, что договор на поставку газа так и не был подписан. Потребности Беларуси в газе удовлетворяются независимыми производителями. До сих пор также не подписан договор на транзит российского газа через газотранспортную систему "Белтрансгаза". Российский газ транспортируется в европейские страны без договора. "Газпром" не производит оплату белорусской стороне за транзит, поскольку нет никаких договоров и до сих пор не согласован тариф транзита газа через территорию Беларуси.

Теперь о перспективе. В балансе газа России на 2004 год объем поставок газа "Газпрома" был определен на уровне 10,2 млрд. куб. м газа и 8,3 — это поставки газа независимых производителей. В настоящее время поставки газа независимых производителей составили 7,9 млрд. куб. м. Как вы видите, в самое ближайшее время объемы поставок газа независимых производителей в балансе РФ достигнут своего лимита. В связи с этим вопрос оформления отношений "Газпрома" с белорусскими коллегами становится особенно актуальным.

Что касается ценовых условий поставки газа. Еще совсем недавно поставки осуществлялись по внутренним российским ценам, регулируемым правительством РФ, это были цены, которые находятся ниже себестоимости добычи, транспортировки, хранения и реализации. Поставка российского газа по цене пятого ценового пояса РФ была увязана с созданием совместного предприятия "Газпрома" и "Белтрансгаза", с реальной интеграцией двух государств.

Другой вариант развития наших отношений в газовой сфере — это сотрудничество на рыночных условиях, на принципах, принятых во взаимодействии с другими партнерами "Газпрома" в государствах СНГ и Европы. Для Республики Беларусь переход на рыночные условия был согласован на встрече двух президентов в Сочи в прошлом году.

Откладывать дальше подписание соответствующих контрактов с "Газпромом" уже невозможно. Нам очень бы не хотелось, чтобы повторился сценарий, когда белорусская сторона, не имея контрактов на поставку газа, начала осуществлять несанкционированный отбор газа из транзитных объемов. Последствия таких действий для Беларуси, как вы все прекрасно знаете, были негативными. Мы надеемся, что повторения ситуации не будет, и рассчитываем на конструктивный диалог.

*Вопрос:* — **Скажите, пожалуйста, принимая такие принципиальные решения, как в феврале, когда газ в Беларусь был перекрыт, в какой степени вам, руководству "Газпрома", приходилось координировать свои действия с властями?**

**А.Б.Миллер:** — Учитывая, что "Газпром" является компанией, в которой основной пакет акций принадлежит государству, вопрос ограничения поставок газа, конечно же, согласовывается с правительством РФ.

*Вопрос:* — **В пятницу в Ялте состоится саммит Россия — ЕС, где будут обсуждаться энергетические вопросы. Предполагается ли обсуждение белорусского вопроса — имею в виду, с точки зрения того, что Беларусь — транзитное государство, и предполагает ли Россия в данном случае договариваться с ЕЭС о том, чтобы лишить Беларусь этого статуса — чтобы газ не проходил через ее территорию?**

*И второй вопрос:* — **"Газпром" занимает достаточно жесткую позицию в последний год. Тем не менее всякий раз он идет на уступки, и всякий раз господину Лукашенко удается выторговать выгодные условия. С моей точки зрения, "Газпром" действует против собственных интересов и даже против интересов России. Каким образом вы собираетесь решать проблему Лукашенко?**

**А.Н.Рязанов:** — У нас нет проблемы Лукашенко. У нас есть проблема поставок газа в Беларусь и транзита газа через ее территорию. Остальные вопросы должны решаться внутри Беларуси.

Что касается транзита. Во-первых, мы никогда не говорили о том, что собираемся отказаться от транзита газа через Беларусь. В Беларуси есть газопровод Ямал—Европа, который является собственностью "Газпрома", который мы практически построили. Осталось ввести в эксплуатацию еще несколько компрессорных станций. По газопроводу Ямал—Европа будет осуществляться транзит 30—32 млрд. куб. м газа в год в европейские страны. Это наши планы, мы их собираемся осуществлять и ничего здесь менять не будем.

Во-вторых, при проектировании газопровода Ямал—Европа была договоренность проложить вторую нитку — и мы от этого не отказываемся. Мы считаем, что когда в Европе будет такая потребность в газе, проложить вторую ветку рядом с первой будет намного дешевле и эффективнее.

В-третьих, маршрут транзита через Беларусь самый короткий. Все это понимают, и мы относимся к этому как к экономической ситуации, позволяющей нам экономить деньги. То есть транзит через территорию Беларуси мы осуществляли и будем осуществлять.

Что касается встречи в Ялте, то, безусловно, мы хотели бы, чтобы этот вопрос был еще раз обсужден между двумя президентами. Изначально, если вы помните, они договорились о поставках газа в Беларусь в 2003 году в Сочи, когда были названы рыночные условия поставок. Тогда за основу были выбраны условия поставок и транзита, как в Украине. Мы на этих условиях и предлагаем заключить контракт: это транзитная ставка, которая применяется в Украине. Только нужно понимать, что эти условия должны быть адаптированы к белорусским условиям. В Украине сегодня транзитная ставка 1,09 долл. за транзит 1000 куб. м газа на 100 км, но объем транзита и транспортное плечо иные, чем в Беларуси. Существует интегральная схема расчета, которая в конечном итоге и определяет стоимость транзита через территорию той или иной страны. Для Украины цена газа 50 долларов, а транзитный тариф — 1,09 доллара. По межправительственному протоколу, подписанному между Украиной и Россией, в счет оплаты транзита по территории Украины мы поставляем 26 млрд. куб. м газа в 2004 году по цене 50 долларов.



*А.Н.Рязанов и А.Б.Миллер во время встречи с белорусскими журналистами.*

Мы показали наши расчеты белорусской стороне. Это не вызвало никакой аллергии — все согласились с расчетами зависимости транзитной ставки от цены газа. При цене 46,68 долл. за 1000 куб. м, которая сейчас сложилась, (и, в принципе, мы с этой ценой согласны), транзитная ставка должна быть 0,46 долл. за транзит 1000 куб. м на 100 км. Хочу отметить, что в этом вопросе мы уже пошли навстречу Беларуси и предлагали транзитную ставку в 0,68 доллара. Но и это белорусскую сторону не устроило. В одностороннем порядке Беларусь 30 января 2004 года приняла решение о том, что транзитная ставка для ОАО "Газпром" равна 1,02 доллара за транзит 1000 куб. м на 100 км. Я считаю, такая цифра не очень корректна: мы же договорились о том, что все решения о транзите будут приниматься совместно с нашей ФЭК. Тем не менее решение о повышении транзитной ставки было принято без всяких расчетов и согласования с российской стороной.

Недели две назад была большая встреча с премьером Российской Федерации, была большая делегация от Беларуси, где представители "Белтрансгаза" сказали, что реальная себестоимость транзита составляет более 80 центов. Мы не понимаем, почему она так выросла. В прошлом году она была 46 центов. В этом году — 80. Что реально изменилось? Мы сказали: покажите тогда ваши расчеты, почему стоимость транзита такова. Вы что, в убыток работаете? Предлагаете нам "Белтрансгаз" купить за 5 млрд. долл. — и при этом работаете себе в убыток? Вы же говорили, что "Белтрансгаз" — очень прибыльная компания, потому и покупать ее предлагалось так дорого. Пока нам никто не обосновал расчетов. В прошлый четверг мы договорились о том, что, если белорусская сторона представит документы, мы их внимательно посмотрим. Поэтому мы еще раз говорим, что мы готовы сегодня заключать контракт, но, безусловно, хотели бы, чтобы высшие руководители двух стран все же определили условия. До этого мы поставляли в Беларусь газ себе в убыток.

Я могу сказать, что цена в 46,7 долл. за 1000 куб. м нас устроит, с учетом того, что для Беларуси решением правительства Российской Федерации 30-процентная экспортная пошлина не действует. Для всех других стран она существует. Но нужна соответствующая тарифная ставка на транзит при цене в 46,7 доллара.

*Вопрос:* — **В каком состоянии находятся переговоры по созданию совместного предприятия на базе "Белтрансгаза"? Насколько известно, есть кандидатура независимого оценщика стоимости "Белстрансгаза". Согласована ли эта кандидатура сторонами? Как много времени еще займет процесс согласования?**

**А.Н.Рязанов:** — Кандидатуру оценщика мы могли согласовать давно. Напомню, что СП мы планировали создать до 1 июля 2003 года. Хочу привести несколько базовых цифр. Без всякой оценки белорусская сторона нам сообщила, что стоимость "Белтрансгаза" 5 млрд. долларов. Это вообще-то цена, которая не подтверждается никакими экономическими расчетами. Купить "Белтрансгаз" за такую цену — значит, купить себе в убыток. Кроме того, нам предлагали неконтрольный пакет акций — хотя в межправительственном соглашении говорится о создании СП на паритетных началах.

Под паритетной основой можно понимать хотя бы владение долями 50:50, хотя мы привыкли, что "Газпром" имеет контрольный пакет во всех газотранспортных системах, в которых участвует. Но нам же предложили 25%. При этом часть акций была уже продана трудовому коллективу. Это небольшой объем, и даже при таком условии можно договориться о создании СП на паритетной основе, — пусть только акции трудового коллектива будут в уставном капитале белорусской стороны.

Наконец, нам сказали, что мы должны будем инвестировать в сети "Белтрансгаза" 1,7 млрд. долларов. Но вопрос об инвестициях решать акционерам. Система достаточно хорошо работает, — нужны ли там такие инвестиции?

В результате мы сочли, что условия белорусской стороны неприемлемы. Мы предложили привлечь к работе независимого оценщика, из первой пятерки компаний-оценщиков мирового уровня. Белорусская сторона в прошлом году отвергла эту идею, признав 5 млрд. долларов справедливой стоимостью. Нам было сказано: не хотите — не покупайте, будем продавать "Белтрансгаз" западным компаниям. При этом полтора года "Газпром" исправно поставлял газ в Беларусь по цене пятого ценового пояса РФ, сначала по 29 долларов за 1000 куб. м, затем цена немного росла. Таким образом, "Газпром" исправно выполнял решения межправительственного соглашения.

В конце концов, мы обратились в российское правительство с просьбой о помощи решения проблемы. Распоряжением правительства рекомендации о применении к Беларуси цен пятого ценового пояса РФ были отменены. Вот тогда начались переговоры. Они продолжались вплоть до 31 декабря. Мы были близки к достижению договоренности, но договориться не удалось.

Ситуация на сегодняшний день выглядит следующим образом. Мы за то, чтобы создать СП. При этом мы считаем, что стоимость "Белтрансгаза" должна быть оценена независимым оценщиком. В январе 2004 года мы отправили в "Белтрансгаз" письма с нашими предложениями: мы считали, что компанией-оценщиком могут стать "Эрнст энд Янг", "Прайсвотерхаус Куперс" и "Делойт и Туш". В ответ нам предложили другую компанию. С этой кандидатурой наши юристы не согласились. После этого "Белтрансгаз" принял решение о том, что нужно согласиться на компанию "Делойт и Туш", но только с ее минским филиалом. Мы предложили привлекать головную компанию "Делойт и Туш", расположенную в Лондоне.

Во время последних переговоров белорусского правительства и "Газпрома" мы договорились о том, что контракт будет подписан с лондонским офисом "Делойт и Туш". Сейчас мы прорабатываем условия этого контракта. То есть сейчас мы находимся на финишной прямой по выбору оценщика. Я считаю, что это большой шаг вперед. Сколько времени займет оценка — вероятно, три-четыре месяца. С учетом рассмотрения результатов оценки, принятия решения мы выходим на 1 октября 2004 года — раньше не получится.

За это время нужно принять правила, на основе которых мы будем строить свои отношения. Позиция "Газпрома" такова: необходимо сегодня заключить контракт на транзит. Газ идет через территорию Беларуси на экспорт без контракта, то есть с нарушением российского законодательства, что грозит серьезными штрафными санкциями. Правда, пока российское правительство идет нам навстречу, поскольку понимает, что транзитировать газ необходимо. Кроме того, мы не платим за транзит газа Беларуси. Оплата транзита с начала года могла бы составить порядка 35 млн. долларов, белорусская сторона могла бы получить эти средства или взять газ в счет оплаты.

От отсутствия транзитного контракта страдают наши потребители газа в Европе, поскольку такая ситуация их не устраивает, потому что нет определенности с поставками на Запад.

Сегодня у "Газпрома" нет контракта и на транзит газа, и на поставку. Поставки газа осуществляются независимыми производителями. Последний контракт был всего лишь на три дня. Газ заканчивается завтра. Сегодня мы пытаемся найти ресурсы независимых производителей, которые уже реально распределены по России, чтобы направить их в Беларусь. Такая ситуация возможна летом, но к зиме делать подобные вещи будет практически невозможно.

Еще раз подчеркну. В российском балансе газа на 2004 год предусмотрена поставка газа в Беларусь в объеме 16,5 млрд. куб. м газа, и еще 2 млрд. куб. м — при наличии технической возможности. Мы найдем техническую возможность, таким образом, в Беларусь в 2004-м должно быть поставлено 18,5 млрд. куб. м газа. Из них квота для ОАО "Газпром" составляет 10,2 млрд. куб. м, для независимых производителей — 8,3 млрд. куб. м. Уже сегодня мы близко подошли к этой цифре. Осталась неделя-полторы. Потом ресурсов у независимых производителей не будет. Можно было бы поставлять их газ, сократив квоту "Газпрома", но просто ресурсы уже распределены по России. У независимых производителей заключены контракты на поставку газа с рядом потребителей: РАО "ЕЭС России", металлургическими комбинатами, азотными заводами, другими потребителями, — эти контракты придется аннулировать, что практически невозможно.

*(Окончание на 2-й стр.)*

# Галодны паёк для медыцыны

Падаецца, што наша "прэзідэнцкае" тэлебачанне ўжо распачало выбарчую кампанію А.Лукашэнкі 2006 года. З дня ў дзень айчыннаму гледачу навязліва ўліваюць у зрок і слых, як шчасліва і заможна жывецца беларусам і як жудасна пачуваюць сябе браты-расіяне пад няўдалым кіраўніцтвам Уладзіміра Пуціна. Там, у Расіі, маўляў, пенсіі маленькія, лекі і прадукты дарагія, сельскія бальніцы ліквідуюцца. Во каб у іх, бліжэйшых замежнікаў, быў такі прэзідэнт, як у нас! І на гэтым агітацыйным фоне — ані слова, ні кадра аб сапраўдным становішчы ў сваёй краіне, аб тым, як усё глыбей спаўзае ў дрыгву нішчымніцы беларуская ахова здароўя, як цяжка даводзіцца нашым хворым і старым людзям, якім мізэрным стала фінансаванне медыцынскіх устаноў.

Не сакрэт, што ў паліклінічным звяне беларускай правінцыі (з абласнога ўзроўню і ніжэй) вострa не хапае тэрапеўтаў і вузкіх спецыялістаў, а медабсталяванне, лячэбна-дыягнастычная апаратура ў бальніцах і паліклініках даўно зношаны, адпрацавалі свой рэсурс з перавышэннем і не вытрымліваюць нават не вельмі напружанага рэжыму эксплуатацыі. З кожным годам лячэбныя ўстановы Віцебшчыны атрымліваюць усё менш бюджэтных сродкаў, сёлета наогул аказаліся на галодным пайку. Медустановам горада Віцебска, да прыкладу, спушчана дырэктыва з прапановай сэканоміць за год 170 мільёнаў рублёў за кошт ашчаднага скарыстання энергарэсурсаў і аўтатранспарту.

Адначасова загадана і скарачаць штаты, што ў дырэктыве таямніча названа "рэструктурызацыяй".

Паламаўшы і без таго зашаныя галовы над чарговымі задачамі, віцебскія чыноўнікі ад медыцыны вырашылі скасаваць здраўпункты ў навучальных установах, перадаўшы іх утрыманне на галіновыя балансы.

Турбуе кіраўнікоў мясцовай аховы здароўя і заданне па платных паслугах: зарабіць 1 мільярд 150 мільёнаў рублёў за год. Як асвоіць такія грошы ва ўмовах нішчымнай матэрыяльна-тэхнічнай базы медустаноў? Заданне цяжкае і ў маральным плане, бо трэба пераконваць пацыентаў, што платныя паслугі з'яўляюцца дадаткам да гарантаванага аб'ёму медыцынскай дапамогі.

І яшчэ адна акалічнасць, пра якую афіцыйныя электронныя СМІ мусяць маўчаць.

На пачатку 90-х гадоў віцебская ахова здароўя без праблем папаўнялася прыезджымі спецыялістамі. Іх задавальняла тут усё: і зарплата, і бытавое забеспячэнне, і жыллёвыя ўмовы.

Цяпер міграцыйны працэс павярнуўся ў процілеглы бок. Спецыялісты-медыкі Віцебшчыны імкнуцца пераехаць калі не ў сталіцу Беларусі, то, яшчэ лепш, за мяжу. У прыватнасці, многія здольныя ўрачы перабіраюцца ў "няшчасную" Расію, якая, калі верыць мінскім тэлесалаўям, так пакутуе без такога мудрага правадыра, як наш "бацька".

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

## Юрый Пракопаў зноў пойдзе ў суд.
### *І не толькі ён*

*Учора Партыя БНФ, каб абараніць сваю дзелавую рэпутацыю, падала два судовых іскі супраць Белтэлерадыёкампаніі і тэлевядучага праграмы "В центре внимания" Юрыя Пракопава, а таксама супраць начальніка аддзела інфармацыі Маларыцкага райвыканкама спадара Строка.*

— Рашэнне было прынята Соймам партыі, — паведаміў учора карэспандэнту "Народнай волі" намеснік старшыні Партыі БНФ Віктар Івашкевіч. — Папершае, нас абразілі словы Пракопава ў адной з перадач "В центре внимания". Там гаварылася аб тым, што наша партыя быццам бы выступае за тое, каб спыніць усялякую дапамогу чарнобыльскім раёнам. Па-другое, мы будзем судзіцца з начальнікам аддзела інфармацыі Маларыцкага раёна спадаром Строкам, які на сустрэчы жыхароў раёна з дэпутатам мясцовага савета ад нашай партыі Уладзімірам Малеем заявіў людзям, каб тыя не слухалі Малеева, бо ён прадстаўнік партыі, якая ў гады Вялікай Айчыннай вайны супрацоўнічала з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Дата заснавання БНФ, як вядома, 1989 год, у нас ёсць запісанае на дыктафонную стужку выказванне Строка, так што выйграць суд, думаю, цяжкасцей не будзе.

**Алесь СІВЫ.**

## «Наўрад ці хто ў расійскім кіраўніцтве падтрымае ідэю трэцяга тэрміну для Аляксандра Лукашэнкі»

*Аб гэтым заявіў на сустрэчы з беларускімі журналістамі ў Маскве вядомы расійскі палітолаг, старшыня прэзідыума Савета па знешняй і абароннай палітыцы Расіі* ***Сяргей Караганаў.***

Паводле яго слоў, у Беларусі шмат дастойных, інтэлігентных людзей, здольных прэтэндаваць на вышэйшую дзяржаўную пасаду. Як сказаў палітолаг, у Маскве з "занепакоенасцю" і "абурэннем" успрымаюць звесткі аб рэпрэсіях супраць вядомых палітычных і грамадскіх дзеячаў Беларусі. Паводле яго слоў, "калі мы бачым, што пачынаюцца сталінскія варыянты", гэта "падштурхоўвае да пераацэнкі магчымасцей наладжвання канструктыўнага дыялогу з Мінскам".

Адносна сустрэчы Уладзіміра Пуціна і Аляксандра Лукашэнкі ў Ялце, што мае адбыцца, С.Караганаў зазначыў, што з боку расійскага прэзідэнта лагічна было б паставіць пытанні аб згортванні ў Беларусі праграмы прыватызацыі, аб "фантастычных перашкодах" для расійскіх экспарцёраў, аб тым, што Беларусь становіцца "небяспечным калідорам" для расійскага транзіту.

**Аляксандр КЛАСКОЎСКІ.**

## Галандцы сабралі подпісы пад петыцыяй да Лукашэнкі

*Больш за 500 подпісаў пад петыцыяй у адрас беларускіх уладаў сабралі актывісты галандскага аддзялення праваабарончай арганізацыі "Міжнародная амністыя" ў нідэрландскім горадзе Ноатдорп.*

Удзельнікі акцыі заклікалі грамадскасць падпісацца пад патрабаваннем "Міжнароднай амністыі" аднавіць расследаванне зніклых у Беларусі грамадскіх і палітычных дзеячаў.

Як паведамілі БелаПАН у прэс-службе незарэгістраванай грамадзянскай ініцыятывы "Хартыя'97", у петыцыі выказваецца падтрымка рэзалюцыі Камісіі ААН па правах чалавека, гаворыцца аб неабходнасці правядзення бесстаронняга і незалежнага расследавання знікнення беларускіх палітыкаў, у тым ліку на прадмет меркаванага дачынення высокапастаўленых чыноўнікаў да злачынстваў і іх утойвання.

Плануецца, што ў найбліжэйшы час петыцыя з подпісамі будзе накіравана на адрас прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі.

**Андрэй АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

## Курсы замежных валют

*Нацыянальны банк устанавіў афіцыйныя курсы замежных валют на 19 мая*

1 долар ЗША — 2154 рублі
1 еўра — 2588.25
1 расійскі рубель — 74.28
1 аўстралійскі долар — 1477.97
1 балгарскі леў — 1329.42
1 дацкая крона — 347.76
1 СДР — 3119.27
1 ісландская крона — 29.38
10 японскіх іен — 188.84
1 казахскі тэнге — 15.77
1 канадскі долар — 1543.04
1 кувейцкі дынар — 7306.40
1 кыргызскі сом — 49.11
1 латвійскі лат — 3926.36
1 літоўскі літ — 749.43
1 малдаўскі лей — 179.50
1 нарвежская крона — 313.38
1 польскі злоты — 544.28
1 сінгапурскі долар — 1249.42
10.000 турэцкіх лір — 13.84
1 украінская грыўна — 404.33
1 англійскі фунт стэрлінгаў — 3800.73
1 чэшская крона — 81.36
1 шведская крона — 282.08
1 швейцарскі франк — 1686.50
1 эстонская крона — 165.38

Народная Воля 19 МАЯ 2004 г.

## Перапіс буслоў

Сёлета праводзіцца 6-ы міжнародны ўлік белых буслоў. Ён праходзіць пад патранажам сусветнай прыродаахоўнай асацыяцыі "BirdLife International" і падтрымліваецца ўсімі краінамі, на тэрыторыі якіх жыве гэты від птушак, у тым ліку Беларуссю.

Паралельна ў краіне пройдзе таксама і нацыянальны ўлік чорных буслоў пры падтрымцы Інстытута заалогіі НАН Беларусі, Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя і АПБ.

Аналіз дынамікі колькасці гэтых птушак, паводле яго слоў, можа шмат расказаць вучоным пра стан навакольнага асяроддзя, што ў сваю чаргу дазволіць выпрацаваць прынцыповыя пытанні аховы і планаваць канкрэтныя прыродаахоўныя мерапрыемствы.

**Лавінія АРЭШКА.**

## Запрацуе Полацкая ГЭС

Леташні газавы канфлікт з Расіяй вымушае беларускую ўладу шукаць свае, альтэрнатыўныя крыніцы энергарэсурсаў. Ва ўмовах нашай краіны самым танным і перспектыўным з'яўляецца стварэнне гідраэлектрастанцый на вялікіх і малых рэках. Сярод новых ГЭС, будаўніцтва якіх пачнецца сёлета, найбольшае значэнне будзе мець Полацкая. Ужо ў верасні плануецца пачатак пракладкі адводнага канала, на што мяркуецца выдаткаваць 35 мільёнаў долараў.

Праектная магутнасць Полацкай ГЭС — 23 тысячы кілават, а яе агульны кошт складзе каля 150 мільёнаў долараў.

Усяго ж на Заходняй Дзвіне запланавана пабудаваць каскад з чатырох ГЭС агульнай магутнасцю 138 мегават, што адпавядае пятай частцы патрэб Віцебскай вобласці.

## Жахлівы фінал рыбалкі

Цяжкае пакаранне за браканьерства атрымаў жыхар вёскі Астроўшчына Полацкага раёна. Ніякі суд не вызначыў бы яму такой жудаснай кары за скваплівасць, якой ён дамогся сам для сябе і сваёй сям'і. Вартаўнік мясцовай школы пайшоў лавіць рыбу на рэчку Нача. Здабываў шчупакоў, лінёў і падлешчыкаў з дапамогай самай жорсткай прылады — электрычнай, якую ён падключыў да высакавольтнай лініі.

Напачатку браканьеру спадарожнічаў поспех. Рыба сотнямі ўсплывала на паверхню, аглушаная моцным токам.

Але завяршылася рыбалка трагічна. Электрычным ударам быў забіты сын вартаўніка-браканьера, запрошаны бацькам для дапамогі ў зборы аглушанай рыбы.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

## Траццякоўская галерэя сустракае «Шэдэўры беларускага жывапісу»

*25 мая ў Маскве, у Дзяржаўнай Траццякоўскай галерэі, адкрыецца выстава "Шэдэўры беларускага жывапісу". На ёй будзе прадстаўлена 105 унікальных твораў са збору Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі.*

Дырэктар музея Уладзімір Пракапцоў паведаміў, што больш за два месяцы ў Маскве будуць экспанавацца найлепшыя работы старажытнабеларускіх іканапісцаў і скульптараў (16 абразоў XVII — XVIII стагоддзяў і дзве скульптуры), 48 шэдэўраў рускага мастацтва (у тым ліку палотны Івана Айвазоўскага, Віктара Васняцова, Міхаіла Урубеля, Ісаака Левітана, Фёдара Рокатава, Валянціна Сярова, Васіля Сурыкава і Івана Шышкіна), а таксама 39 твораў класікаў беларускага жывапісу і вядомых сучасных мастакоў.

**Марат ГАРАВЫ.**

ЧУЛІ?

## Марыніча хочуць узяць на парукі

*Былы суддзя Канстытуцыйнага суда* **Валерый Фадзееў**, *карэспандэнт газеты "Белорусский рынок"* **Сяргей Балыкін,** *прафесар, доктар тэхнічных навук* **Георгій Лепін,** *экс-кандыдат у прэзідэнты Беларусі* **Уладзімір Ганчарык** *і галоўны рэдактар "Белорусской деловой газеты"* **Святлана Калінкіна** *накіравалі асабістае паручыцельства пракурору з хадайніцтвам аб змяненні* **Міхаілу Марынічу** *меры стрымання.*

Нагадаем, што на мінулым тыдні Міхаілу Марынічу адмовіліся змяніць меру стрымання. Паводле слоў адваката **Веры Страмкоўскай**, ***"адмова матывавана тым, што ён можа ўкрыцца да следства і суда, а таксама паўплываць на ўстанаўленне ісціны па справе".***

*"Гэтыя людзі ведаюць Міхаіла Афанасьевіча не адзін год, таму ў сваіх асабістых паручыцельствах яны ручаюцца за былога дыпламата і сцвярджаюць, што той не будзе хавацца ад следства і ніяк не паўплывае на ўстанаўленне ісціны па справе,* — гаворыць Вера Валянцінаўна Страмкоўская. — *У тым выпадку, калі здарыцца нешта непрадбачанае, напрыклад, Марыніч схаваецца ад суда, то на кожнага паручыцеля судом можа быць накладзена грашовае ўтрыманне у памеры ад 100 да 500 базавых велічынь.*

*У самы бліжэйшы час мы павінны атрымаць адказ ад пракурора".*

**Марына КОКТЫШ.**

НЕЗВЫЧАЙНЫ ПОГЛЯД

# Ціхая Айчынная вайна

*Перамогу ў Вялікая Айчыннай вайне здабывалі танкамі, самалётамі, аўтаматамі. Жыццямі салдатаў. Была вайна з выбухамі і стрэламі, і вайна гэта ўшанавана належна, яна ў памяці на стагоддзі.*

*А была вайна — ціхая, бясшумная, і пра яе чамусьці гэтак жа ціха забылі. А забываць нельга.*

*У ціхай барацьбе, без аўтамата і гранаты ў руках, удзельнічала большая частка насельніцтва акупаванай Беларусі. Ціхае народнае супраціўленне захопнікам працягвалася з сорак першага, калі наша краіна была захоплена фашысцкай Германіяй, па сорак чацвёрты, калі фашыстаў прагналі. І ў гэтай вайне мы таксама перамаглі. Як? Змаглі выжыць. Ці ж не важкая гэта перамога? Аб сваёй ціхай вайне мне расказала Таццяна Фамінічна Гузава.*

*Яе, шаснаццацігадовую дзяўчынку, вайна напаткала ў Мінску. У сталіцы Таццяна Гузава вучылася на зубнога тэхніка. Нямецкія бомбы прымусілі бегчы прэч з нябяспечнага горада. Разам з сяброўкай яны пехатой адправіліся на радзіму, у вёску Галавічы, што ў Дрыбінскім раёне. Тры гады пражыла пад немцамі Таццяна Фамінічна. Вось яе расказ.*

Мне споўнілася васемнаццаць гадоў. Хацелася на танцы схадзіць. Абутку не было. Хадзілі хто ў чым: у лапцях, у валёнках. А летам з вяровачак плялі чунькі і шылі калодкі. Былі ў мяне туфлі, але я іх захоўвала на будучыню. Пасля вайны паехала ў Мінск вучыцца ў тых туфлях.

Купіць нешта на ногі можна было толькі ў Магілёве. Вось я і пайшла туды, на кірмаш, за шэсцьдзесят кіламетраў. Маці сабрала масла, і мы разам з двумя сяброўкамі пайшлі пешшу ў горад. Кірмаш там быў, памятаю, вялікі. За тыя грошы за масла купіла я сабе галёшы.

Танцы ў Галавічах былі кожную суботу, а то і ў нядзелю, і па святах. І музыка нават быў, Ханок. Вельмі добра граў на гармоніку.

Кожная дзяўчына па чарзе павінна была знайсці месца для скокаў, калі свая хата малая і не падыходзіць. Да мяне адзін хлопец заляцаўся, дык прыбягаў з суседняй вёскі. Нават праз лес хадзіць не палохаўся! З мяне танцорка была дрэнная, часцей сядзела ў кутку. І паліцаі, якія маладыя, таксама прыходзілі на танцы. Што ж нам рабіць, не прагоніш жа іх, каб потым немцам расказалі?

Было ў нас адно вяселле. У царкве. Пры немцах яе зноў адчынілі. Усё ўнутры прыбралі. У каго былі, прынеслі абразы. Нават бацюшка прыехаў аднекуль. Высокі, прыгожы, малады. Не ўмеў чытаць па стараславянску, дык мама мая яго вучыла. Пасля даведаліся, што ён быў партызанам.

### Хлеб

Калі мы прыйшлі ў Галавічы, нашы ўжо тыдзень як бачылі немцаў. Тыя ў вёску не заязджалі, праехалі побач, па шляху Горкі—Чавусы—Магілёў, які будавала яшчэ Кацярына II. У нашай вёсцы былі чатыры адзінаасобнікі, якія не пайшлі ў калгас. Дык яны пабралі абразы, ручнікі і пабеглі да шляху сустракаць немцаў. Сястра мая малодшая, Маня, таксама з сяброўкамі туды бегалі. Пабралі белыя хустачкі, зрабілі з іх сцягі, крычалі: "Мы здаёмся". Немцы ехалі, хто на матацыклах, хто на машынах, і не спыняліся.

У Галавічах немцы адразу распусцілі калгас. У Дрыбіне арганізавалі Магістрат. Раздалі зямлю. Дзялілі на душы, на малых дзяцей не давалі. Нам далі на чатыры душы: на мяне, сястру, бацьку і маці. Атрымалася каля чатырох гектараў. Падзялілі калгасныя будынкі, коней. Нам далі жарабя двухгадовае, а дзядзьку, брату бацькаваму, далі добрага каня. Падзялілі таксама хлеб. Бацька да вайны працаваў у магазіне, адна маці рабіла ў калгасе. Давалі хлеб толькі былым калгаснікам. Таму нам дасталося зусім мала. А сям'я была не маленькая: чацвёра дзяцей і бацькі, шэсць чалавек. Таму той год галадалі. Рвалі лебяду і з мукой мясілі хлеб.

Бацька хадзіў працаваць на млын, рамантаваў там нешта, прыносіў муку дахаты. Што было не знайсці, дык гэта соль. Прыходзілася карыстацца селітрай, што завезлі ў калгас перад самай вайной. Шукалі яе, замочвалі, адстойвалі ў вёдрах, злівалі ў бутэлькі, хавалі пад падлогу, бо яе маглі ўкрасці.

Збіралі яйкі, масла. Насілі на кірмаш у Дрыбін, прадавалі. Грошы хадзілі нашы, савецкія рублі. Марак тых, нямецкіх, ніхто і ў вочы не бачыў. Сястра з'ездзіла ў Оршу і купіла соль. Вось тады мы зажылі! Змаглі нават сала пасаліць. Што ў нас было? Свінні былі, карова ацялілася, цяля выгадавалі і прадалі. Набылі авечак.

### Хітры Хомка

Бацьку майго не ўзялі ў армію, бо ў яго адно вока было пакалечана ў грамадзянскую вайну. Дрэнна бачыў. Было яму на пачатку вайны сорак гадоў.

Немцы загадалі паліцаям выбраць старасту вёскі. Прыйшоў аднойчы да нас бацькаў дваюрадны брат Штыраль, які раней за ўсіх запісаўся ў паліцыю. Зайшоў у хату, селі за стол. Гутарылі, выпівалі. Раптам пачаў бацьку ўгаворваць, каб пайшоў у паліцыю. А той ні ў якую. "Які ж з мяне паліцай з адным вокам", — смяецца. "Ну, тады, — кажа паліцай, — будзеш старастам". Бацька зноў: "Не". Штыраль — за ружжо. А бацька разважае ўслых: "Навошта мне, Аляксеевіч, да немцаў на службу ісці? Ты пайшоў, дык ты ж крыўду на Саветы маеш за раскулачванне, а мне на каго крыўдаваць? Хто яго ведае, як яшчэ будзе...".

Хітры быў мой бацька.

Паліцай разазлаваўся: "Не пойдзеш — заб'ю". І стрэліў у столь. Мы з маткай сядзелі на печы. А печ у нас была высокая, метры два з паловай. Ён толькі сказаў гэта — я як скокну з гэтай печы і адразу да паліцая, хапаюся за ружжо. "Спачатку забівай нас, дзядзька, а потым бацьку!" — крычу. Ён і рукі апусціў. Так і пайшоў і больш да бацькі не прыставаў. А старастам выбралі тады іншага, нашага суседа.

Памятаю адзін восеньскі дзень, цёплы-цёплы. Ідуць па вясковай вуліцы два немцы, у форме, прыгожыя такія салдацікі. Не спяшаюцца, "гергечуць" штосьці. А мы ж не разумеем паіхняму. Я стаю на вуліцы ля хаты, а на акне ў нас ляжыць пяць яек. Сястра Маня ў пакоі. Я кажу: "Маня, Маня, схавай тры яйкі, толькі два немцам дадзім". А тыя "немцы" пачулі і кажуць: "Малайцы, дзяўчынкі, не любіце фашыстаў!" Гэта былі пераапранутыя партызаны.

Бацька ў той час будаваў нейкі хлеўчык, крыў яго саломай. "Партызаны прыехалі", — ціхенька нам кажа. Злез з даху і схаваўся ў той хлеў, каб яго не ўбачылі. Не ўсім жа наліваць ды сала падаваць!

Аднойчы прыехалі ў Галавічы немцы і арыштавалі бацьку. Нехта данёс, што ён быў галоўным арганізатарам калгаса і здымаў у царкве званы. У Галавічах царква была вялікая, прыгожая, з трыма купаламі, званамі. У трыццаць сёмым з царквы зрабілі калгасную клець. Адны пад прымусам здымалі званы, а бацька іх на возе адвозіў у раён. Вось і нагаварылі людзі. Яшчэ быў на яго злосны паліцай, якога да вайны раскулачылі. Яго бацька зноў-такі на сваім возе адвозіў у Дрыбін. Дык жонка таго на калені станавілася перад немцамі, прасіла, каб бацьку расстралялі. Таму і ўзялі бацьку, пасадзілі пад замок. Выратаваў цуд. Стараста вёскі, сусед наш, добры бацькаў знаёмы, заступіўся.

### Партызаны

Вакол нашай вёскі шмат лясоў. У адзін бок — тры кіламетры да лесу, у другі — кіламетраў восем, Гулідаўка, самы вялікі лес. Таму, як пачалі нашы адступаць у пачатку вайны, у Гулідаўцы адразу ж з'явіліся партызаны. Хавацца ім было дзе.

Хата наша стаяла з краю вёскі, каля рэчкі Проні. Калі ў Галавічы пачалі заходзіць партызаны, перш за ўсё стукалі да нас. Прыходзілі ноччу. Маці дасць ім гарлач малака, хлеба, сала кусок укіне, калі ёсць. А няма — дык няма. Пасядзяць з бацькам, пагавораць ціхенька.

Зрабілі яго нават сваім сувязным. Памятаю аднаго партызана, Ваньку Чубатага. У яго былі чорныя прыгожыя валасы. Бацька з ім гутарыў, расказваў, колькі ў вёсцы паліцаяў, ці прыходзілі немцы.

У паліцыю з вёскі шмат хто пайшоў. Чаму пайшлі? Калгасы не любілі. Мы ўжо восем ці дзесяць гадоў жылі ў калгасах, некаторыя іх ненавідзелі. Паліцаям выдалі вінтоўкі, абмундзіраванне.

А ў партызаны ніхто не пайшоў: у вёсцы толькі маладзенькія і старыя мужыкі засталіся.

Быў, праўда, адзін лейтэнант малады, Іван Лусцікаў, які яшчэ да вайны паспеў скончыць ваеннае вучылішча. Калі нашы прабіваліся з акружэння, ён застаўся ў роднай вёсцы. У партызаны не пайшоў. Прыходзілі да яго, агітавалі, а ён не жадаў і ўсё.

У той дзень, калі пад выглядам немцаў партызаны прыйшлі ў Галавічы, таксама заходзілі да яго. І да дырэктара нашай сямігодкі, што ў Карэбах, зайшлі.

Дырэктар жыў наводшыбе, амаль за вёскай. Партызаны да яго прыходзілі і раней, хацелі, каб ён кладаўшчыком пайшоў да немцаў, браў для іх хлеб. Дырэктар адмовіўся, можа, за жонку з дочкамі хваляваўся. Дык вось, пачалі тыя "немцы" з ім размаўляць, правакаваць. А ён не зразумеў, не раскусіў. Сам савецкую ўладу любіў, пры ёй у людзі выйшаў, а тут разгубіўся і сказаў не тое. Каля яго жыла ў сваёй хатцы адзінокая жанчына. Яна гнала самагонку і давала партызанам. Вось ён і кажа пераапранутым партызанам: з ёю асцярожней, туды ходзяць партызаны.

Не ведаю, адкуль дазнаўся бацька, але ў той жа дзень ён сказаў нам: "Сёння вечарам прыйдуць забіваць дырэктара". Так і выйшла.

Ноччу партызаны забілі ў Галавічах Івана Лусцікава, расстралялі былога кіраўніка калгаса, які таксама працаваў на немцаў. А потым пайшлі да дырэктара. Толькі той ужо ведаў, што за ім прыйдуць.

Пачуў стрэлы і збег. Па бульбоўніку, праз поле. Партызаны зайшлі ў хату — яго няма. Толькі жонка і трое дзяцей. Яны: "Дзе?". Яна: "Не ведаю". Яны тады: "Забірай дзяцей, выганяй скаціну з хлява". Дапамаглі нават швейную машыну вынесці і падпалілі іх хату. Як зараз памятаю: гэта было на досвітку. Прачынаемся: вакол агонь. Усе спалохаліся, думаем, што немцы падпалілі вёску. Цёпла, суха, вецер, хоць і далёка, але ўсё можа быць. Пачалі хто што браць — і на вуліцу. Я разгубілася, толькі і прыдумала, што схапіць гарбузныя семкі. Потым усе з мяне смяяліся: Таня з семкамі з полымя выбегла!

А дырэктар на другі дзень паехаў у магістрат у Дрыбін і пачаў там працаваць. Адзін раз, у канцы вайны, калі немцы ўжо адступалі, зайшоў да нас. Казаў з горыччу майму бацьку: "Шчаслівы ты чалавек! Дачакаўся ўсё ж такі сваіх, а я, дружа, прагарэў. І чаму я так зрабіў?" Потым, калі вайна скончылася, дырэктар той застрэліўся.

### Немцы

Немцы ў Галавічах не стаялі — у гэтым нам пашчасціла. Заязджалі зрэдку, каб набраць паліцаяў ці людзей пастрашыць. Давалі старасце загад: сабраць яйкі, сена. Хлеб, як змалоцім, на вазах адвозілі на станцыю. Кажухі забіралі, адзін і ў нас узялі. Загадвалі вязаць шкарпэткі, цёплыя рукавіцы. Баяліся нашай зімы.

Пасля той ночы, калі партызаны прыходзілі ў вёску, прыехаў да нас карацельны атрад.

Сагналі ўсіх у калгаснае гумно, што стаяла ў канцы вуліцы. Зачынілі дзверы. Усе плачуць, думаюць, што будуць нас паліць. Чакалі ў тым хляве сваёй смерці. Але ж не, выпусцілі. Паставілі ў радок, узялі з шэрагу аднаго мужыка старога, што знайшоў недзе бочку спірту. Гэты стары паіў усіх: і немцаў, і паліцаяў, і партызан. Данеслі, што ён партызан поіць. Насупраць нашай хаты стаяла хата мужыка, што ваяваў на Фінскай вайне. Ён інвалід быў, узнагароджаны ордэнам за баявыя заслугі. І яго ўзялі. Вывелі іх на луг, што насупраць фермы, паставілі і расстралялі перад усімі. Немцы стралялі, не паліцаі. Прыехала іх чалавек пяць-шэсць.

Прыязджалі потым і другі раз. Усіх не зганялі. Прайшліся па хатах. Забілі жанчыну, што самагонку гнала. Дзяцей не чапалі. Забілі таксама жонку таго салдата, што ваяваў у Фінскую.

### Танцы

У сорак другім засеялі свае гектары, знялі добры ўраджай. Бацька вучыў нас малаціць цапамі, потым нейкі "казёл" зрабіў. Раніцай маці печ паліць, а мы з бацькам і сястрой Маняй ідзём малаціць. Намалацілі — добра. Былі ўжо задаволены і так жыць. Адно ж лепей, чым паміраць.

### Пагарэльцы

У сорак трэцім годзе мы пачулі: немцы адступаюць. Курская дуга. З таго часу яны і пабеглі. І ў Галавічы таксама прыбеглі. У нашу хату пасялілі пяць немцаў, лёгкапараненых. Стварылі медсанбат. Ганялі нас акопы капаць: каля вёскі праходзіла лінія фронту. За Проняй ужо чутна была кананада. Тут нас сабралі, пастроілі — і пагналі праз Шклоў у лагер "Лясная", што пад Баранавічамі. Больш за год прабадзяліся мы ў бежанцах, вярнуліся ў Галавічы пасля вызвалення Беларусі.

Прыехалі ў вёску — усе вяскоўцы ўжо там. Мы апошнія. Ніводнай хаты не засталося. Усе згарэлі. Дзе толькі печ чарнела, дзе слупок які. Ні платоў, ні дрэваў. А было больш за сто двароў.

Адкапалі пшаніцу, сала, што паспелі схаваць перад адыходам. Трохі было што паесці. На двары нашым немцы бункер зрабілі. Там і зімавалі. Уся вёска ў такіх бункерах сустрэла зіму.

Хату ў першы год не будавалі. Бацьку забралі ў будаўнічы атрад, я паехала ў Мінск вучыцца. Толькі ў сорак шостым пачалі будаўніцтва. Хадзілі ўдваіх з бацькам у наш бор, пілавалі дрэвы, скідалі іх у Проню, звязвалі ў плыты. Прыганялі бліжэй да вёскі. Пачалося пасляваеннае жыццё, вельмі цяжкае...

*Да салдат, якія з боем выходзілі з акружэння, савецкае камандаванне звычайна ставілася, як да шпіёнаў. Іх адпраўлялі ў Сібір. Адаслаць у лагер цэлую краіну не змог бы нават Сталін са сваімі памагатымі. Але ж падазроныя адносіны да тых, хто жыў на акупаванай тэрыторыі, існавалі доўга пасля вайны. Нават у анкеце пра гэта патрабавалася пісаць.*

*Таму, напэўна, пра жыццё на акупаванай тэрыторыі, пра гэтую ціхую вайну ў нас і гаварылі, і пісалі мала, скупа. Разважалі так: дзе ж тут гераізм? Іншая справа — вайна партызанская, самаахвярная. Альбо барацьба ў тыле, на заводах і фабрыках. Усё так. І не зусім так.*

*Згодна з планам "Ост", які быў распрацаваны Гімлерам, семдзесят пяць працэнтаў насельніцтва Беларусі фашысты збіраліся знішчыць. Дзякуй Богу, гэты жудасны план яны не выканалі. Чаму? Хітры Хомка перашкодзіў.*

*Выкрутлівы, разважлівы, Хомка ўвабраў у сябе ўсе тыпова беларускія якасці, якія і дапамаглі нашаму народу выйсці з вайны ў асноўным жывым. Ды не проста выжыць, а захаваць сям'ю, выгадаваць дзяцей. Для абяскроўленай вялізнымі людскімі стратамі Беларусі хітры Хомка выратаваў чатырох маладых грамадзян! Хіба ж гэта не подзвіг? Хіба ж Хомка не герой?*

*Ці ж не рызыкаваў Хомка жыццём, калі пасярод страляніны браў у рукі касу, запрагаў каня, ехаў на пашу? Не рызыкавала Таццяна Гузава, якая хадзіла пешшу ў Магілёў за галёшамі для танцаў? Танцы ў той час, калі на фронце льецца кроў, — гэта кашчунства, — скажа нехта. А я з ім не пагаджуся. Вайна не змагла выбіць беларусаў з жыццёвай каляіны, не прымусіла іх спыніць сеяць хлеб, кахаць, нараджаць дзяцей. Сваім жаданнем жыць яны таксама перамогу "набліжалі, як маглі". Гэта жаданне і ёсць — Ціхая Айчынная вайна беларусаў.*

**Мікола КАЗЛОВІЧ.**

# Чего хочет «Газпром»...

*(Окончание. Начало на 1-й стр.)*

*Вопрос:* — **Вы не считаете, что белорусская сторона, понимая, что "Газпром" вряд ли еще раз пойдет на радикальные шаги и отключит транзит газа через Беларусь, начнет спекулировать на этом?**

**А.Н.Рязанов:** — Именно так и происходит. Ситуация уже складывается таким образом: не Беларусь, а "Газпром" заботится о том, чтобы у нее был газ. Я звоню в Беларусь и предупреждаю: "У вас заканчивается газ!" Но спекулировать можно только пока тепло. С началом осени, когда начнутся нагрузки на газовые сети, должны быть жесткие контракты на поставку газа, которых сейчас нет. Но мы надеемся на разумный подход белорусской стороны.

*Вопрос:* — **Вы говорили о том, что объемы поставок независимых производителей газа в Беларусь исчерпаны. Не останется ли Беларусь без газа?**

**А.Н.Рязанов:** — Компания "СИБУР" из ресурса независимых производителей поставит еще 350 млн. куб. м. Документы на поставку газа уже оформлены. До 23—24 мая Беларуси газа хватит. Но напоминаю, что квота на поставку газа независимыми производителями подходит к концу, и газ находить станет все труднее. Сегодняшнее потребление Беларуси составляет порядка 40 млн. куб. м в сутки. Это существенные объемы, найти их не легко.

*Вопрос:* — **В своем послании парламенту Беларуси Александр Лукашенко сказал такую фразу: "Не надо смотреть на Беларусь через прицел газовой трубы". Фактически глава государства поставил вопрос поставок газа из России в Беларусь с точки зрения национальной безопасности страны. Вы не могли бы прокомментировать это высказывание?**

**А.Н.Рязанов:** — В наших действиях никакой политики нет. Хочу напомнить события осени 2002 года. Мы начали вводить ограничения на поставку газа в Беларусь. Поднялся шум: это политика, рука Москвы и так далее. Мы проводили ограничения исходя из исключительно экономической ситуации. Потому что в то время за газ Беларусь просто не платила. В "Газпром" приехал тогдашний премьер-министр Беларуси Новицкий, у него открылись глаза: я не знал о том, что мы не платим за газ! После этого ситуация с платежами выровнялась. Весь 2003 год Беларусь исправно платила за газ. Более того, мы заключили с Белоруссией соглашение о реструктуризации задолженности за поставки газа в 1999, 2001 и 2002 годах. График платежей выполняется. Кроме того, сейчас Беларусь платит независимым поставщикам за газ. Другими словами, мы всегда исходим только из экономической целесообразности.

Мы понимаем, что экономика Беларуси еще развивается и не достигла уровня европейских стран, где газ стоит дорого. Поэтому мы и предлагаем разумную цену. Цену даже несколько ниже, чем в Украине.

Тем более газ в Беларуси продается намного дороже, чем покупается в России. Некоторым отраслям промышленности газ продается уже по 70 долларов за 1000 куб. м. А идея, если вы помните, была такова, чтобы сделать равные конкурентные условия для российских и белорусских предприятий.

И тогда мы предложили отдать нам сбытовую сеть для организаций продажи газа конечным потребителям Беларуси. Российский "Межрегионгаз" продает газ по оптовой цене, установленной Федеральной энергетической комиссией. А в Беларуси по оптовой цене покупает "Белтрансгаз", а дальше идут существенные, на наш взгляд, надбавки. При этом себестоимость транспортировки до конечных потребителей на самом деле в Беларуси ниже. Мы считаем, что это один из моментов, когда идея создания равных рыночных условий для российских и белорусских предприятий не выполняется.

*Вопрос:* — **Является ли "Белтрансгаз" для "Газпрома" компанией, владея долей в которой, можно существенно укрепить свои позиции?**

**А.Н.Рязанов:** — Скажу откровенно, что с выходом газопровода Ямал—Европа на полную мощность потребность в прокачке газа по сетям "Белтрансгаза" резко уменьшается. Это факт, который мы не скрываем. В то же время "Белтрансгаз" является оператором газопровода Ямал—Европа. Мы не хотели бы организовывать дополнительные структуры для этого. В этом вопросе "Белтрансгаз" уже имеет необходимый опыт.

Мы понимаем, что по сетям "Белтрансгаза" будет поставляться газ в Калининградскую область, Литву, Польшу. Сейчас мы увеличиваем объем транзита газа через Беларусь в Украину. Мы считаем, что определенный объем работы останется, и его будет выполнять "Белтрансгаз".

Но уже в 2004 году мы планируем транзитировать через газопровод Ямал—Европа на 10 млрд. куб. м газа больше, чем через сети "Белтрансгаза". "Белтрансгаз" имеет ценность только благодаря транзиту российского газа. Без газа это всего лишь железо, которое мало чего стоит.

Как вы знаете, мы собираемся строить Северо-Европейский газопровод, который позволит нам существенно снизить проблемы, которые возникают с государствами-транзитерами.

*Вопрос:* — **В случае, если контракты не будут заключены, "Газпром" прекратит поставки газа в Беларусь, белорусы начнут несанкционированный отбор российского газа — вы готовы пойти еще на один имиджевый удар?**

**А.Н.Рязанов:** — В этом случае еще один имиджевый удар придется по Беларуси. Во всем мире будут знать, что Беларусь — эта страна, которая может забирать чужой газ. Надеюсь, мы до этого не дойдем.

**Вопрос: — Вы говорили об активах "Белтрансгаза" и о том, что трубы без газа не представляют ценности. Трубы, как известно, со временем приходят в негодность. Изменится ли ситуация с ценой "Белтрансгаза" через какое-то время? Есть ли какой-то критический момент, когда из-за изношенности газотранспортной системы актив перестанет быть активом?**

**А.Н.Рязанов:** — Есть, однако, у "Белтрансгаза" еще достаточно большой амортизационный ресурс. Износ есть, по нашей оценке, он не настолько велик, чтобы волноваться из-за этого. Именно поэтому мы были удивлены, когда белорусская сторона сообщила нам о необходимости инвестиций 1,7 млрд. долл. в реконструкцию газотранспортной системы. Все достаточно эффективно работает, с вводом газопровода Ямал—Европа нагрузка на сети "Белтрансгаза" снизилась. Мы считаем, что они смогут работать без проблем еще лет 10—15.

*Вопрос:* — **5 млрд. долларов — это оценка стоимости всего "Белтрансгаза"? Соотвественно, за контрольный пакет требовалось заплатить около 2,5 млрд. долларов. В то же время в прессе фигурировали и иные цифры: 1 млрд. долларов за контрольный пакет "Белтрансгаза". В случае, если независимый оценщик оценит компанию в 3 млрд. долларов, "Газпрому" придется отдать 1,5 млрд. долларов. Откройте секрет: на какую цифру готов "Газпром"?**

**А.Н.Рязанов:** — Мы готовы приобрести контрольный пакет акций "Белтрансгаза" по балансовой стоимости, которая составляет около 500 млн. долларов.

Что касается независимой оценки. Любая оценка — это лишь предмет для дальнейших переговоров. Если стоимость "Белтрансгаза", по подсчетам независимого оценщика, будет слишком большой — условно говоря, 1 млрд. долларов, 2 млрд. долларов или 3 млрд. долларов — мы просто не будем покупать. Мы понимаем, что при такой стоимости компании наши инвестиции окупятся слишком поздно или не окупятся вообще. Решение о покупке акций "Белтрансгаза" по высокой стоимости не пропустит совет директоров "Газпрома", поскольку проекты "Газпрома" должны иметь рентабельность минимум 15%, для газотранспортных мощностей чуть меньше — 12%. Плюс к тому мы должны будем получить разрешение на такие большие инвестиции от Центрального банка РФ и Минэкономики России. А они тоже вряд ли позволят нам вложить такие средства в проект, который окупится через десятки лет.

*Вопрос:* — **То есть "Газпром" просто не может отдать больше за "Белтрансгаз", поскольку находится в жестких экономических рамках?**

**А.Н.Рязанов:** — Верно. Существуют портфельные и другие инвестиции, которые делают западные компании, имея на счетах свободные средства. У "Газпрома" нет свободных средств на счетах. Вся инвестиционная программа расписана у нас на три года вперед. И инвестиции в ней предусмотрены в добычу газа и развитие российской газотранспортной системы.

Я еще раз хочу подчеркнуть, что острой, стратегической необходимости в приобретении "Белтрансгаза" у нас нет. Ямал—Европа скоро выйдет на проектную мощность. Мы создаем газотранспортный консорциум в Украине. Мы расширяем наши транзитные мощности. Хотя сети "Белстрансгаза" нам выгодны, поскольку это самый короткий путь доставки газа в Европу.

*Вопрос:* — **Какие предприятия нефтехима интересуют "Газпром"?**

**А.Н.Рязанов:** — Например, "Гродненский Азот" и "Полимир". Пожалуй, я бы отметил эти два предприятия.

*Вопрос:* — **Переговоры с белорусской стороной по этому вопросу еще не велись?**

**А.Н.Рязанов:** — Пока нет, хотя определенные заявления с белорусской стороны поступали. Мы посылали наших специалистов на предприятия для оценки их технического состояния.

## Партытуры не згараць

Падоўжыць жыццё лепшай музыкі XX стагоддзя вырашылі супрацоўнікі віцебскай абласной бібліятэкі імя У.Леніна.

Днямі тут адбылася папярэдняя прэзентацыя мультымедыйнага цэнтра, афіцыйнае адкрыццё якога запланавана на верасень.

У цэнтры ўсталяваны чатыры камп'ютэры, набытыя за кошт небюджэтных сродкаў. Запісы музычных твораў мінулага стагоддзя з калекцыі бібліятэчнага аддзела мастацтваў дагэтуль захоўваліся на вінілавых пласцінках, якія хутка зношваюцца, што адмоўна адбіваецца на якасці гучання. Абмежаваны і тэрмін захаванасці магнітафонных стужак. З улікам гэтых акалічнасцяў у бібліятэцы пачалася праца па стварэнні электронных копій старых запісаў. За кароткі час на цвёрды камп'ютэрны носьбіт пераведзены 14,5 тысячы калекцыйных запісаў: канцэрты выдатных вакалістаў і музыкантаў, прыжыццёвыя запісы вялікіх майстроў розных музычных жанраў — ад класічных сімфоній да папулярнай эстрады. На ўсялякі выпадак створаны і рэзервныя копіі.

Усе гэтыя запісы можна слухаць у аддзеле мастацтваў з дапамогай камп'ютэрнай праграмы "Арганайзер".

Адначасова пакуль што захоўваецца магчымасць альтэрнатыўнага праслухоўвання запісаў на традыцыйных носьбітах — прайгравальніках старых узораў і музычных цэнтрах сучаснага ўзроўню.

З цягам часу стане магчымым і вывад на маніторы камп'ютэраў партытур музычных шэдэўраў у час іх праслухоўвання.

Над ажыццяўленнем каштоўнага праекта працуюць праграмісты бібліятэкі Іван Мацвееў і Валянцін Нагорскі.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

ЁСЦЬ ПЫТАННЕ...

## Чаму чарнобыльцы адмаўляюцца ад аздараўлення?

*"У гэтым годзе,* — гаворыць дырэктар Рэспубліканскага цэнтра па аздараўленні і санаторна-курортным лячэнні насельніцтва Уладзімір Рыжанкоў, — *мы павінны аздаравіць 242 тысячы чарнобыльцаў, 82% з якіх складае аздараўленне дзяцей і групавое аздараўленне. Для гэтай мэты дзяржава выдзяліла сродкі ў колькасці 82 мільярдаў рублёў. Але ж у сапраўднасці гэтая лічба вышэй. Патрэбны грошы яшчэ для выплаты кампенсацый і аплаты праезду да месца санаторна-курортнага лячэння і назад".*

Па словах Ул.Рыжанкова, сярод чарнобыльцаў ідзе масавы зварот пуцёвак, таму што яны, асабліва у першым і чацвёртым кварталах года, адмаўляюцца ад санаторнага лячэння. Згодна з законам, калі гэтая катэгорыя людзей не выкарыстала санаторна-курортнае лячэнне, дзяржава павінна выплаціць ім кампенсацыю, якая складае каля 118 тысяч рублёў. Праўда, ёсць сярод іх катэгорыя людзей, якая прыкладна на 80% — інваліды. Яны з разуменнем ставяцца да стану свайго здароўя і з задавальненнем едуць у санаторыі. Але ж астатнія... *"Мы ходзім і ўпрошваем іх,* — кажа Ул.Рыжанкоў, — *а яны гавораць: я адмаўляюся ад санаторна-курортнага лячэння, выплаціце мне кампенсацыю. На мой погляд, трэба было б перагледзець пытанне з кампенсацыяй: калі чарнобылец адмаўляецца ад лячэння, то і кампенсацыю не трэба выдаваць. Да таго ж часта нашы праверкі з выездам на месцы паказваюць, што выплачаныя грошы ідуць не па прамым прызначэнні. А, на маю думку, калі дзяржава праяўляе клопат і выдзяляе сродкі на ахову здароўя, то трэба гэтыя сродкі накіроўваць менавіта на сваё здароўе.*

*Нярэдка людзі гавораць: а што мы ў гэтым санаторыі атрымліваем? Канешне, некаторыя з іх сёння можа сапраўды павінны быць рангам вышэй для лячэння гэтай катэгорыі людзей. Але ж практыка паказвае, што чарнобыльцы самі ігнаруюць непасрэдна лячэнне: не хочуць выконваць працэдуры, якія ім прызначаны ўрачом. Атрымліваецца так: каб яны плацілі грошы са сваёй кішэні, то і ставіліся б да гэтага па-іншаму".*

У адрозненне ад дарослых, дзеці з чарнобыльскіх зон з вялікім задавальненнем едуць на санаторна-курортнае лячэнне, дзе яны не толькі лечацца, але і вучацца. *"Мы не заключаем дагаворы з тымі здраўніцамі, якія не маюць вучэбнай базы",* — гаворыць Ул.Рыжанкоў.

**Наталля ГУСЕВА.**

СУД!

## Доприставались...

Среди бела дня у входа в клуб "Русский бильярд", что по улице Ленина в Светлогорске, четверка подвыпивших парней беспричинно пристала к трем местным жителям. Словесная перепалка вскоре перешла в рукопашную схватку. Используя численное преимущество, зачинщики в течение двадцати минут с небольшими перерывами демонстрировали приемы из арсенала профессиональных боксеров, каратистов и других представителей экзотических видов восточных единоборств.

Свидетелям происшествия это поначалу показалось обычной кабацкой дракой. Но в подобных сходках "стенка на стенку" добивать упавших на землю было позором. В данном случае древний обычай был нарушен — одного из упавших били ногами. По голове.

Прибывший на место происшествия милицейский наряд приступил к "зачистке" близлежащей территории, ибо участники драки поспешили разбежаться. Одному из побежденной тройки вскоре стало совсем плохо и понадобилась помощь медиков. Доставленный в больницу, он впал в кому и через несколько дней скончался от закрытой черепно-мозговой травмы.

Предварительное следствие по возбужденному уголовному делу скрупулезно восстановило картину происшествия — квартет виновников в полном составе попал на скамью подсудимых с обвинением в злостном хулиганстве и умышленном тяжком телесном повреждении, повлекшем смерть потерпевшего.

Зачинщик и наиболее активный участник дневного побоища индивидуальный предприниматель Сергей Петровский судом Светлогорского района приговорен к одиннадцати годам лишения свободы в исправительной колонии усиленного режима. Александр Санец вместе с братом Вячеславом и Максимом Северяном проведут в такой же колонии на год меньше. Виновные в смерти выплатят семье погибшего по два с половиной миллиона рублей каждый в возмещение причиненного морального вреда.

**Михаил ОГОНЬКОВ.**

